# КРЫВІНКА

ЛІСТАПАД
№16 (297)
2022 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ПЕРАПІСКА, ЯКАЯ ТРОХІ ЗАЦЯГНУЛАСЯ

**У кастрычніку 2022 года падчас «прамой лініі» я задаў пытанне наконт стану ходнікаў у Бешанковічах. Акцэнтаваў увагу на вуліцах імя Чарняхоўскага, Свабоды і імя Валадарскага. Неўзабаве мне прыйшоў ліст з адказам. У лісце стаяла, што высокія бардзюры зроблены ў Бешанковічах "згодна праектнай дакументацыі". А ходнік па вуліцы імя Валадарскага адрамантуюць да 7-га лістапада 2022 года.**

Фактычна да 07.11. рамонт часткі ходніка быў зроблены, там нават была пакладзеная тратуарная плітка. Але, варта заўважыць, што гэтая работа зроблена не якасна. Бо ў адным месцы ходнік набыў нахіл у бок канавы. Так што ўзімку рухацца па ім будзе праблематычна.

Але ж увесь аварыйны ходнік не адрамантавалі, яго нават не абкасілі. І па-ранейшаму ім амаль што ніхто не карыстаецца.

Пасля таго, як вось гэтая навіна 7-га лістапада з'явілася на нашым сайце, я атрымаў другі ліст з райвыканкама, датаваны 09.11.2022. Там на чысцюткай расейскай мове "дадаткова паведамляюць наступнае" (пераклад мой):

"Вядуцца работы па бягучым рамонце ходніка па вул. Валадарскага ў Бешанковічах. Аб заканчэнні работ Вам будзе дадатковае паведамленне да 17.11. 2022.

**Г. Станкевіч**

АДУКАЦЫЯ

## РАМОНТ ШКОЛЫ ЗАВЕРШАНЫ

**У Бешанковічах пасля пяцімесячнага капітальнага рамонту адкрылася сярэдняя школа № 2 імя Міхаіла Мікалаевіча Ткачэнкі. Такога вялікага рамонту ўстанова адукацыі не бачыла ніколі за ўсю гісторыю свайго існавання. Можна казаць, што СШ № 2 стала практычна новай школай.**

Тут поўнасцю заменены сістэмы водазабеспячэння, водаадвядзення, ацяплення, электразабеспячэння, падлогі, сцены, столі, дзверы, сантэхніка, лесвічныя пралёты, дахі спартзалы і сталовай. У школе з'явіліся чатыры дадатковыя кабінеты, сучасны гардэроб, другі камп'ютарны клас. Кожны клас абсталяваны высакахуткасным інтэрнэтам.

Устаноўлены новыя сістэмы відэакантролю і пажарнай сігналізацыі, лакальная сетка.

Рэканструяваны ганак, на якім з'явіўся новы элемент безбар'ернага асяроддзя - электрапад'ёмнік, для дзяцей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. Іх, дарэчы, у школе пакуль няма.

Пакуль што не здадзенная толькі спортзала, дзе вядуцца работы па ўкладцы падлогі.

На мадэрнізацыю школы было затрачана больш за 4 млн рублёў ахвяраванняў расейскага мільярдэра Аляксандра Яўневіча, былога выпускніка СШ №2. У ліпені 2022 года на святкаванні 575-годдзя заснавання Бешанковічаў яго аб'явілі Ганаровым грамадзянінам Бешанковіцкага раёна.

**А.Тутэйшы**

*ЯКУБУ КОЛАСУ – 140!*

****

*...Родны край! Ты разарваны,*
*Паабапал ад мяжы*
*Лях ліхі, маскаль паганы*
*Моцна сьцягваюць гужы,*

*Каб з хаўтурнае майстэрні*
*Беларусу сшыць халат,*
*Ды ні пан, ні хам ня верне*
*Плынь гісторыі назад!*

*Эх, чаго нам не прыйшлося,*
*Брацьця мілыя, ужыць!*
*Колькі талентаў зьвялося,*
*Колькі іх і дзе ляжыць.*

*Невядомых, непрызнаных,*
*Неаплаканых нікім:*
*Толькі ў полі адсьпяваных*
*Ветру посьвістам пустым!*

*Толькі ж, брацьце, край ня згінуў,*
*Не пагнуўся яго стан,*
*І із нас душы ня выняў*
*Ні маскаль, ні польскі пан.*

*Дык хіба ж мы праў ня маем,*
*Сілы, шлях свой адзначаць*
*І сваім уласным краем*
*Край свой родны называць?!*

**Якуб Колас**
*з паэмы "Сымон-музыка"*

*Партал твайго горада: http://beshankovichi.by*

КАДРЫ

## НОВАЯ ДЫРЭКТАРКА ШКОЛЫ

**Толькі 4-га лістапада 2022 года ў Астровенскай школе Бешанковіцкага раёна прызначылі новую дырэктарку.**

Нагадаем, што школа засталася без кіраўніка напярэдадні новага 2022 навучальнага года. Новую кіраўніцу прызначылі толькі перад пачаткам другой чвэрці. Гэта Алена Галавенка, "у которой уже имеется опыт работы в данной школе, ранее она занимала должность заместителя директора по воспитательной работе." (Па інфармацыі "Зары".) Потым звольнілася.

3 гэтай нагоды з настаўнікамі сустрэлася старшыня Бешанковіцкага РВК Галіна Унуковіч. На сустрэчы размова ішла аб якасці адукацыі, удасканаленні выхаваўчай работы са школьнікамі, матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстановы адукацыі. Асноўныя тэзісы ейнага выступу (па версіі "Зары"):

1. Няўхільнае выкананне педагагічнымі работнікамі школы так званых 10 правіл, зацверджаных Міністрам адукацыі.
2. Педагог - гэта прафесіянал з бездакорнай рэпутацыяй.
3. Працягнуць на такім жа высокім узроўні правядзенне выхаваўчай работы па ўсіх напрамках, пры гэтым удзяляючы асаблівую ўвагу патрыятычнай, прафарыентацыйнай рабоце.
4. Адкрыты дыялог з бацькоўскай грамадскасцю.
5. Павышэнне якасці ведаў навучэнцаў: ад якаснага ўрока да дастойных вынікаў на алімпіядах.
6. Неабходна закрыць існуючыя вакансіі педагога-псіхолага і сацыяльнага педагога.

**А.Тутэйшы**

УВАГА!

## ЗНОЎ ПРАБЛЕМЫ З ВАДОЙ

**У чацвер, 10-га лістапада 2022 года, у рэдакцыю раённай газеты «Зара» звярнуліся жыхары дома № 10, размешчанага на вуліцы Маладзёжнай Бешанковічаў. У іхняй скарзе ішла размова аб тым, што з водаправоднага крана ідзе вада карычневага колеру (да звароту прыкладалася шакуючае відэа, якое пацвярджала прыведзеныя словы.) Аб правядзенні якіх-небудзь работ, у выніку якіх магчыма пагаршэнне якасці вады, насельніцтва не папярэдзілі, што і выклікала справядлівыя нараканні людзей.**

"Зара" напісала, што зварот яна пераадрасавала ў кампетэнтныя службы і "чакае адказу".

Прайшло тры дні. На сайтах "Зары" і Бешанковіцкага РВК адказу пакуль што няма.

Нагадаем, што напрыканцы сакавіка 2021 года ў Бешанковічах у дамах па гэтай вуліцы адбылося масавае атручванне людзей вадаправоднай вадой. Толькі на чацвёрты дзень надзвычайнага здарэння мясцовыя ўлады прызналі, што ад дрэннай вады пацярпела значна больш людзей, чым яны паведамлялі раней.

Потым пракуратура паведаміла, што нават "пры наяўнасці стойкага затхлага паху 29 і 30 сакавіка 2021 года спажыўцам працягвалі падаваць ваду... У выніку ў мясцовую бальніцу з сімптомамі вострай віруснай кішачнай інфекцыі звярнуліся 104 чалавекі: 29 з іх прыйшлося шпіталізаваць, а 75 назіраліся амбулаторна."

Толькі амаль праз месяц на сайце Бешанковіцкага РВК з'явілася паведамленне пра тое, што вада ў мікраёне вуліцы Моладзевая ў Бешанковічах нарэшце стала прыдатнай для піцця.

**А.Тутэйшы**

ЭКАНОМІКА

## ЗАКАНАМЕРНАСЦІ ПАДЗЕННЯ ЗАРОБКАЎ

**Белстат апублікаваў свежую статыстыку па рэальных заробках у Беларусі. Сярэдняя зарплата па краіне ўпала і склала 1637 рублёў у верасні (што на 29 рублёў менш, чым месяцам раней).**

Падаць у рэальным выражэнні заробкі сталі ад сакавіка: відавочна, гэта прамы вынік пачатку вайны, якую развязала Расія. Па сутнасці, падзеі пасля 24 лютага паставілі кропку на беларускім «экспартным цудзе», якое працягвалася ў першыя два месяцы 2022 года. Прычым важна, што рэальныя заробкі ў Мінску ў лютым раслі сапраўды ўражвальнымі тэмпамі, на 17,1%, гэта значыць, практычна ў два разы хутчэй, чым па ўсіх астатніх рэгіёнах.

Менш за ўсё ў лютым рэальныя заробкі раслі ў Магілёўскай і Віцебскай абласцях (плюс 6,8% у кожнай), а найбольш высокія паказчыкі (акрамя Мінска) аказаліся ў Гомельскай (плюс 9,5%) і Гродзенскай вобласці (плюс 8,6%).

Пры гэтым цікава, што дынаміка «адмоўнага росту», пачынаючы з сакавіка, у рэгіёнах размеркавалася з пэўнымі заканамернасцямі. Эканамічны крызіс, які пачаўся з канца лютага, прынцыпова адрозніваецца ад таго, які адбываўся падчас пандэміі COVID. Сёння крызіс вельмі моцна б'е менавіта па «кропках росту», і мы бачым гэта на прыкладзе Мінска.

Мяркуючы па ўсім, калі вы, як кампанія, рабілі ўсё для таго, каб расці і развівацца, быць часткай сусветнай эканомікі, паспяхова канкурыраваць, цяперашні крызіс будзе вас дабіваць мацней за іншых. Менавіта для вас зачыняюцца экспартныя рынкі, ваш юрыдычны адрас становіцца максімальна «таксічным».

І наадварот. Калі прадпрыемства нікуды не імкнулася, працавала на дзяржаўных датацыях, не вылазіла з даўгоў, то ўзрушэнні, якія адбываюцца, тычацца яго менш за ўсё. Як сядзелі на шыі ў дзяржбюджэту, так і працягнуць сядзець. Змены, што адбываюцца цяпер, тычацца

*(працяг на стар. 2)*

ЭКАНОМІКА

*(пачатак на стар. №1)* ў першую чаргу тых сфер, у якія гэткія кампаніі-паразіты нават носа ўсоўваць не жадалі.

Парадаксальную сітуацыю яскрава ілюструе тое, што Мінск цяпер больш за ўсіх прасеў па заработнай плаце. У траўні падзенне дасягала мінус 9,3%, пасля крыху адкацілася, але заставалася высокім (у ліпені і жніўні — мінус 7,9%, у верасні — мінус 6,8%).

Гэта адбываецца таму, што з Мінска з'язджаюць самыя кваліфікаваныя спецыялісты, у сталіцы гінуць высокааплатныя сэрвісы. Вялізныя цяжкасці адчуваюць прагрэсіўныя і навукаёмістыя прадпрыемствы, якія пакутуюць ад недахопу рэсурсаў і камплектуючых з-за мяжы і якія страчваюць рынкі збыту. Знікае сектар, які раней прыцягваў інвестыцыі, а пасля ствараў эфект перацякання капіталу ў іншыя галіны.

І наадварот. Магілёўская вобласць, дзе менш такіх прагрэсіўных прадпрыемстваў, дзе заробкі традыцыйна самыя нізкія ў краіне, прасядае значна менш: у траўні падзенне склала 4,3%, у жніўні і верасні па мінус 3%.

Што мы бачым яшчэ. Па сутнасці, толькі тое, што ўрад з той эканамічнай мадэллю, што ёсць сёння, з узніклай сістэмнай праблемай ніяк справіцца не можа. Усе намаганні, прыкладзеныя за апошнія месяцы, значнага выніку не прынеслі. Мы па-ранейшаму ў «мінусе» па заробках, сітуацыя — без перамен, наўрад ці глабальна зменіцца, а адставанне ад суседзяў будзе толькі расці.

Балюча глядзець: заробкі ў Беларусі не могуць дагнаць Польшчу, Чэхію, краіны Балтыі

Ужо шмат гадоў у Беларусі практыкуюцца абрады прызыву прывіду дабрабыту, які прыходзіць у выглядзе бясконцага паўтарэння думкі аб перспектыве заробку «па пяцьсот». Паўтысячы вабяць, дражняць, то набліжаючыся, то адыходзячы.

**Новы Час**

ВОСТРЫ РАКУРС

# ВУЛІЦА ІМЯ МІЧУРЫНА Ў БЕШАНКОВІЧАХ

**Гэта вуліца ў Бешанковічах калісьці лічылася ўзорам добраўпарадкавання. На ёй і сёння размешчаны Бешанковіцкі лясгас, які калісьці грымеў на ўсю Беларусь як адзін з перадавых лясгасаў. Калісьці на гэтай вуліцы месцілася адна з найлепшых у райцэнтры сталовых і выдатная крама. Але тое загубілі, мусіць, беззваротна. Засталася сама вуліца.**



Ляжыць яна не ў цэнтры Бешанковічаў, а таму ўладутрымаючыя як бы забыліся пра ейнае існаванне. Усё добрае можна занядбаць за лічаныя гады.

Сёння такое адбываецца з дарожным пакрыццём вуліцы імя Мічурына.

Цяжкія лесавозы і безліч іншай тэхнікі, якая штодзённа тралюе драўніну туды-сюды па вуліцы Мічурына, цалкам знішчылі тут дарожнае пакрыццё. Але ж за тую вывезеную лясгасам прадукцыю плацяць амаль што золатам. І яго сотай ці тысячнай долі хапіла б, каб падтрымаць вуліцу ў нармальным стане.

На гэтай жа вуліцы ляжыць Бешанковіцкі філіял Рэспубліканскага цэнтра падвышэння кваліфікацыі пра-цаўнікоў лясной гаспадаркі. Гэта значыць, людзі з усёй Беларусі наведваюць нашыя Бешанковічы, каб падзівіцца, у якім балоце тут жывуць.

Уяўляеце, як ён урэжацца ў памяць тым, хто праходзіць тут падвышэнне?

**Г.Станкевіч**

АЛКАГОЛЬ

# ЛЮДЗІ МРУЦЬ ЯК МУХІ

**За студзень-жнівень колькасць смерцяў ад атручэння алкаголем у Віцебскай вобласці ўзрасла больш як на 30 працэнтаў у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.**



Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення ДКСЭ па Віцебскай вобласці Таццяна Серабракова.

Усяго за восем месяцаў ахвярамі алкаголю і яго сурагатаў сталі каля 200 чалавек. Большую іх частку склалі людзі працаздольнага ўзросту, пераважна мужчыны, трэцьз агульнай колькасці - пенсіянеры, якіх памерла з-за атручэння алкаголем у 1,5 раза больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

Атручэнні не былі звязаны з якасцю спіртазмяшчальных напіткаў, а адносіліся толькі да перадазіроўкі алкаголю.

Антырэкорд у гэтым плане пабіў 32-гадовы жыхар Віцебшчыны, у крыві якога судовыя эксперты-хімікі выявілі этанол у канцэнтрацыі 5,7 праміле. Гэтай колькасці адпавядае 1-1,2 л гарэлкі, выпітай за кароткі прамежак часу. У той жа час жыхары рэгіёну сталі радзей гінуць ад сурагатаў алкаголю. Значна знізілася колькасць атручванняў метанолам, які, як правіла, з'яўляецца кампанентам кантрафактнай "шклоамывайкі". Нядобрасумленныя вытворцы выкарыстоўваюць яго для патаннення прадукцыі і не паказваюць яго наяўнасць на этыкетцы. Для смяротнага зыходу дастаткова 30 г метанолу ў чыстым выглядзе.

Таксама на Віцебшчыне знізілася колькасць атручэнняў тэхнічнымі вадкасцямі - арганічнымі растваральнікамі, этыленгліколем. У вобласці быў зарэгістраваны смяротны выпадак атручэння сродкам ад насякомых-шкоднікаў, якое прыняў мужчына 1969 года нараджэння.

**БЕЛТА**

УКРАЇНА-РАСІЯ

# РАСЕЯ НЕ ГАТОВАЯ ПРАЦЯГВАЦЬ ГЭТУЮ ВАЙНУ

**Былы віцэ-прэм'ер урада Расіі Альфрэд Кох падзяліўся сваімі надзеямі ў сувязі з адступленнем расійскіх войск з Херсона.**

Ясна адно: Расія зараз перажывае востры крызіс. Пасля ўцёкаў расійскага войска на левы бераг Дняпра, у грамадстве ідзе працэс усведамлення новай рэальнасці. Магчыма, ён пачаўся раней, але, мяркуючы па пабліках, абмяркоўваецца і фармулявацца ён стаў зараз. Да гэтага часу расейцы знаходзіліся ў нейкай выдуманай рэальнасці, нашпігаванай фантазіямі адна прыгажэй іншай. У гэтай рэальнасці Расія - гэта адна з вядучых сусветных эканомік. У Расіі - другое войска свету. У яе вялізны прамысловы патэнцыял, сучасная высокаразвітая навука і выбітная культура. У яе нетрах схаваны незлічоныя скарбы і ўсе людзі на Зямлі зайздросцяць расейцам, што ў іх такая багатая краіна. Асобна расейцам зайздросцяць таму, што ў іх ёсць выбітны прэзідэнт, які ўсіх блытае сваімі шматхадовачкамі, а потым - абыгрывае. І наогул, рускія - магутны і здаровы душэўна і фізічна народ, які не прайграў ніводнай вайны і можа супрацьстаяць усяму свету.

І вось гэты цудоўны сьвет цяпер пачынае зьнікаць, а ягонае месца паступова займае грубая рэальнасьць, якая кажа, што Расея – краіна, якая старэе, насельніцтва якой імкліва скарачаецца. Па працягласці жыцця яна займае 101 месца, а гэтую вайна адкіне Расію яшчэ на пару дзясяткаў месцаў таму. Прамысловасць у Расія адсталая, неўспрымальная да інавацый і неканкурэнтаздольная, а ВУП не расце ўжо амаль 10 гадоў.

У Расіі дрэнная экалогія і людзі шмат хварэюць. Але медыцына ў краіне развалена і людзі паміраюць ад такіх хвароб, якія ў іншых краінах ужо даўно навучыліся лячыць.

Адукацыя знаходзіцца ў разбураным стане і ніводная расійская ВНУ не ўваходзіць у рэйтынг ста першых універсітэтаў свету.

У Расіі кожны сёмы яе грамадзянін знаходзіцца за рысай беднасці. Гэта пры тым, што гэтая рыса ўстанаўліваецца самімі ўладамі і не з'яўляецца аб'ектыўным пакязчыкам.

Можна яшчэ шмат чаго пералічваць пра Расію. І пра ўзровень карупцыі, і пра сацыяльную няроўнасць, і пра адсутнасць сацыяльных ліфтаў і адмоўны адбор, і пра ўсемагутнасць сілавікоў і адсутнасць незалежнага суда, і пра разбурэнне інстытутаў дэмакратыі і абуральныя парушэнні элементарных правоў чалавека.

Можна ўзгадаць пра тое, што найбагацейшая газам краіна не можа газіфікаваць сваю вёску. Што ў значнай частцы расійскіх школ няма цёплай прыбіральні. Пра алкагалізм і наркаманію, пра эпідэмію СНІДу (даўно пераможанага ўсюды, акрамя Афрыкі), пра адсутнасць самых неабходных лекаў, пра самы высокі ў свеце ўзровень абортаў…

Але і пералічанага дастаткова каб прапагандысцкая карэта, якая засела ў галаве ў абывацеля, ператварылася ў гарбуз, і ён спусціўся з нябёсаў на зямлю. І сыход з Херсона можа стаць тым халодным душам, які, нарэшце, працверазіць ап'янелага ад лісівых апавяданняў расейца.

Ён павінен, нарэшце, зразумець, што авантуры такога маштабу краіне проста не па кішэні. Што пагрозы бяспецы, якімі палохалі іх крамлёўскія жыхары - высмактаныя з пальца. І што ў краіны ёсць нашмат важнейшыя і першачарговыя задачы, чым вайна з Украінай.

Расея павінна проста спыніць гэтую вайну. Цяпер. Неадкладна. Калі яна не хоча развалідца і знікнуць. Відавочна, што лёгкі пераможны шпацыр, які планаваў Пуцін, аказалася поўнамаштабнай вайной, да якой ніхто ў Маскве не рыхтаваўся.

І калі б з самага пачатку было вядома куды ўсё гэта вылезе - б'юся аб заклад: ніхто б не стаў нават пачынаць.

Яшчэ раз: Расея маленькая, бедная, слабаразвітая краіна - сыравінны прыдатак. Раней - Захаду, а зараз - Кітая і Індыі. Яе працаздольнае насельніцтва невялікае і ў значнай ступені складаецца з гастарбайтараў. Велізарныя прасторы і суровы клімат моцна падаражае нават канкурэнтаздольную прадукцыю за кошт вялікіх транспартных выдаткаў і доўгага ацяпляльнага сезона.

Расея не гатовая працягваць гэтую вайну. Строга кажучы, яна ўвогуле да яе не была гатова. Але працягваць яна яе проста не можа. Няма фізічнай магчымасці.

Можна, вядома, усіх паставіць ракам, уладкаваць усім казіную пысу, загнаць у казармы на хлеб і ваду і прымусіць працаваць суткі напралёт. А мужчын ад 16 да 60 без разбору паставіць пад стрэльбу. Але навошта?! Вы ўсё роўна не выйграеце.

Эканоміка, з якой вы звязаліся на парадак больш за вашу. Вам яе не пераплюнуць. Уся задума мела хоць нейкія шанцы на поспех, калі б Захад пакінуў Украіну адну ў бядзе. Але ён яе не пакінуў. Цяпер гэта ўжо ясна як Божы дзень.

Ніякіх шанцаў у Расіі няма. Можна яшчэ нейкі час паўпірацца, забіць яшчэ тысячы людзей, працягнуць разбураць украінскія гарады і г.д. Але вынік усяго гэтага будзе той самы: Расія прайграе гэтую вайну. А Украіна яе выйграе. Таму што Расея адна, а з Украінай увесь вольны сьвет, які падтрымаў Украіну.

**Салідарнасць**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ГІСТОРЫЯ ПРА МАНАПАЛІСТА, ЯКОМУ НІХТО НЕ ПЕРАШКАДЖАЕ

**Дух захоплівае ад перспектыў, якія адкрываюцца перад айчыннай лёгкай прамысловасцю, і спароджаныя яны «спецыяльнай ваеннай аперацыяй Расіі ва Украіне».**



Каму «спецаперацыя» — акаму і родная маці. 27 кастрычніка ў Палацы Незалежнасці старшыні канцэрна «Беллегпрам» Тацццяне Лугіной былі прадстаўлены разгорнутыя перспектывы.

Цытую паводле прэс-рэлізу сайта president.gov.by: «...з расійскага рынку ў цяперашніх абставінах сышлі многія замежныя гульцы. Скараціўся імпарт і ў Беларусі. Дык гэта шанец заняць вось гэтую нішу. На нашым асноўным рынку — расійскім. І на ўнутраным рынку. Таму калі вы за гэты час, які іншыя галіны, дапусцім, як сельская гаспадарка, не паднімецеся, грош вам цана. Цяпер ужо вам ніхто не перашкаджае. І вы наогул манапалісты, у вас няма сапраўднай канкурэнцыі» (вылучана — С. Н.).

Адначасна адсутнасцю канкурэнцыі перавагі галіны, што падведамная спадарыні Лунгіной, не абмежаваліся:

«Крызіс — гэта цяжка, складана, але гэта шанец, гэта магчымасць. І перш за ўсё для лёгкай прамысловасці. У нас жа ёсць усё. Тканіны ёсць, швейныя машыны ёсць, кваліфікаваны персанал — і тэхнолагі, і кіраўнікі, і швачкі, і іншыя, хто вяжа і яшчэ нешта робіць, — у нас усё ёсць. Таму ўсё залежыць ад нас, як мы разгорнемся».

Бяда, як вядома, мае схільнасць прыходзіць з таго боку, адкуль яе менш за ўсё чакаеш. Аднак гэтакай жа ўласцівасцю валодае і шчасце. Што мы мелі да «спецаперацыі»? «Сюды (у Беларусь. — С. Н.) вазілі ад рыззя — сэканд-хэнд да брэндаў. І ў нас або анучы куплялі, або брэнды. < ... > Гэта бяда, калі нашы людзі, хай іх менш стала, але бягуць у краму і вочы ў іх гараць, калі бачаць нейкую імпартную прадукцыю».

Аднак час спажыўцоў, у якіх гарэлі вочы, час выбару, калі кожны знаходзіў сабе тавар на свой густ і кашалёк, назаўжды застаўся ў мінулым. Цяпер ужо ўнутраны рынак, «які ў свой час быў аддадзены незразумела каму», пераходзіць прадпрыемствам легпрама, якіх больш за 2 тысячы.

Дзякуй «спецаперацыі», калі б не яна, то думка, што «мы можам пашыць сваю прадукцыю», і ў галаву б нікому не прыйшла. Дзякуй, вялікі дзякуй «спецаперацыі», якая зрабіла казку ІМПАРТАЗАМЯШЧЭННЯ быллю.

**Насенне дало парасткі**

«У нас няма прадпрыемстваў, як мы іх часта называем, без ведамаснай падпарадкаванасці. Усё ў нас у ведамстве». І кожнаму прадпрыемству зверху спушчаны даручэнні. У гэтых даручэннях, нібы ў барадзе Чарнамора з казкі, і палягае сіла беларускай мадэлі. Адно толькі бянтэжыць: «у нас ёсць звычка такая — валакіціць гэтыя даручэнні, пакуль прэзідэнт у другі ці ў трэці раз не звернецца ў плане кантролю».

Пра тое, да якіх наступства прыводзіць адсутнасць сыходнага патоку даручэнняў, старшы выкладчык і навуковы супрацоўнік Ракфелераўскага цэнтра Дортмуцкага каледжа Чарльз Уілан тлумачыць на прыкладзе развіцця лёгкай прамысловасці ў Бангладэш у сваёй кнізе «Голая эканоміка. Выкрыццё панурай навукі».

Развіццё яе ў Бангладэш пачалося з увядзення ЗША і Еўропай квотаў на імпарт паўднёвакарэйскага тэкстылю. У адказ карпарацыя Daewoo перадыслакавала шэраг сваіх прадпрыемстваў у Бангладэш. Папярэдне яна інвеставала ў чалавечы капітал — накіравала 130 бангладэшскіх работнікаў у Паўднёвую Карэю для прафесійнай падрыхтоўкі.

«Пасля Daewoo разарвала адносіны з партнёрам у Бангладэш, але насенне для экспартнай галіны, якая бурна развівалася, на той час ужо дало парасткі. Са 130 работнікаў, навучаных Daewoo, 115 на працягу 1980-х гадоў сышлі з прадпрыемства і заснавалі ўласныя фірмы па экспарце адзення».

Чалавечы капітал, у адрозненне ад абсталявання або фінансавых актываў, немагчыма забраць. Варта было бангладэшскім работнікам навучыцца шыць кашулі — і ўжо ніхто не здолеў іх прымусіць забыцца, як гэта робіцца. І яны не забыліся, стварыўшы экспартаарыентаваную галіну коштам 3 мільярды долараў.

Танны экспарт на пачатковай стадыі спрыяў і росквіту «азіяцкіх тыграў»: Сінгапура, Ганконга, Тайваня, Паўднёвай Карэі, а яшчэ раней — Японіі. Далей пайшло само. У 2021 годзе, паводле Сусветнага банка, у спісе краін па ВУП (па парытэце пакупніцкай здольнасці) на душу насельніцтва яны размясціліся на 2-м, 13-м, 17-м, 32-м і 39-м месцах адпаведна. Для параўнання, «наша Расія» заняла 55-е, а Беларусь — 75-е месца.

**З пункту гледжання тых, хто ва ўладзе**

У чарговы раз нагадаю азбукавую побытавую ісціну: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што па кірунку іміграцыйных патокаў можна беспамылкова вызначаць перспектывы развіцця нацыянальных эканамічных мадэляў.

Свежы прыклад: у кастрычніку Цэнтральны банк Арменіі палепшыў прагноз па росце ВУП краіны ў 2022 годзе з 1,6% да 13%. Старшыня Цэнтральнага банка Марцін Галсцян патлумачыў гэта прыездам у краіну таленавітых і добра адукаваных расіян, пераважна работнікаў IT-сектара. У Грузіі прагназуюць рост эканомікі ў гэтым годзе на 10%, а ў Беларусі, верным саюзніку Расіі, за дзевяць месяцаў 2022-га ВУП скараціўся на 4,7%.

Звестак па Казахстану і Кыргызстану я не маю, аднак не абавязкова быць Настрадамусам, каб прадказаць станоўчы ўплыў ад масавай іміграцыі маладых і адукаваных расіян на эканоміку краін, якія іх прытулілі.

Дакладная статыстыка зыходу адсутнічае, але ў тым, што лічыць іх варта сотнямі тысяч, ніхто не сумняваецца.

Людзі — рухавік эканомікі. «На самай справе, яны як бы адказныя за эканамічны рост, — тлумачыць навуковы кіраўнік Расійскай эканамічны школы Рубен Енікалопаў. — Заўсёды недаацэньваецца роля лідараў. Дастаткова адчапіць лакаматыў — і ўсе сорак вагонаў спыняцца і будуць стаяць. Таму не трэба казаць, што лакаматыў — гэта ўсяго толькі адзін вагончык з сарака, без яго нічога не паедзе. Людзі з высокім чалавечым капіталам і высокатэхналагічныя індустрыі — гэта такія лакаматывы, іх уплыў абсалютна непрапарцыйны іх колькасці».

Няўжо ў Крамлі і Палацы Незалежнасці пра гэта не здагадваюцца? Зразумела, такія веды таямніцай ні для каго не з'яўляюцца. Праблема ў тым, што высокі чалавечы капітал несумяшчальны з прынцыпам нязменнасці ўлады. Вось і даводзіцца ўладзе з двух варыянтаў знаходзіць больш прывабны для сябе, так бы мовіць, абіраць меншае ліха. Меншае — з пункту гледжання тых, хто ва ўладзе.

**Сяргей Нікалюк**
**«Новы Час»**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# КАК ИП ОКАЗАЛИСЬ МЕЖДУ МОЛОТОМ И НАКОВАЛЬНЕЙ

**Чего ждать от очередного намерения властей навести порядок на рынке. Экономист Владимир Ковалкин — о том, что властям абсолютно наплевать, будет у белорусов выбор из двадцати видов джинсов или только два вида брюк от «Коминтерна» — серые и черные.**

После доклада премьер-министра о состоянии дел в экономике Александр Лукашенко заявил, что «в целом экономика по отдельным направлениям показывает хорошие результаты». Раздал поручения: как строить тактику и стратегию, чтобы выйти как минимум на уровень прошлого года, как платить госдолг (в рублях) и закончить уборку кукурузы, анонсировал скорую встречу с Путиным, напомнил о регулировании цен и отдельно затронул индивидуальных предпринимателей.

В адрес последних прозвучало: мол, «настало время работать прозрачно и не мешать легкой промышленности работать». А после 7 ноября чиновники различных уровней должны будут вновь собраться у правителя и отчитаться о ситуации на рынке.

— Мне кажется, ИПшникам не повезло дважды — в данном конкретном случае пересеклось два тренда, — отметил в комментарии Филину экономист, руководитель проекта «Кошт урада» Владимир Ковалкин.

— Один тренд — популистский, антиинфляционный: скорее всего, Лукашенко положили на стол какие-то очередные исследования общественного мнения, которые показали, что «народец» не очень доволен обеднением, поскольку реальные доходы (рассчитываемые с поправкой на инфляцию) падают. И это вызвало желание запустить в очередной раз пиар-кампанию «хороший царь и плохие бояре», в данном случае — плохие купцы, которым можно надавать по шапке: что ж вы народ обижаете своими ценами.

Это один тренд, ситуативный. А второй — тренд на замену всего частного государственным. Пускай плохим, кривым, дефицитным, но государственным. Если внимательно посмотреть на этот тренд, старт ему был дан где-то в мае 2021 года, когда случилась посадка самолета Ryanair с Протасевичем на борту, разгром Т*Т. BY — решения, вероятно, были приняты раньше, но проявились они именно с этими громкими событиями.

Эксперт напоминает: зачистку власти начали с очевидных «врагов народа»: негосударственных медиа, некоммерческих организаций — сайты заблокировали, организации принудительно ликвидировали, дальше пошли по клиникам, кафе и так далее.

**— Сейчас дошли и до ИПшников.**

Логика в том, что любой частник, будь то коммерческая организация (медклиника, торговое предприятие, общепит) или некоммерческая (любой фонд, экологическое объединение, инициатива активистов), — слишком уж независим от государства. А это дико раздражает Лукашенко после 2020 года, он боится повторов. Поэтому тренд — зачистить полностью поле, а на пустошь насадить государственное.

Но в конкурентной борьбе государственное проигрывает, поскольку цены высокие, а сервис или товары, говоря откровенно, г*но. Это очень хорошо видно на примере медиа: кто будет читать «Советскую Белоруссию» или БелТА, если их не заставлять? Собственно, никто, особенно, если есть выбор в виде других медиа, которые представляют более качественный продукт.

То же самое происходит и с некоммерческими организации — вместо нормальных, независимых

*(працяг на стар. №4)*

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

*(пачатак на стар. №3)*

начинают появляться провластные, оттуда повылазили все «круглые демократы» и им подобные. А более или менее общественная инициатива — банится, ликвидируется как организация, в особых случаях признается «экстремистской» либо «террористической», чтобы поставить на ее место что-то прогосударственное, а-ля БРСМ.

Происходящее с ИП также абсолютно укладывается в этот тренд. От ИПшников нужно избавиться, поскольку они больно независимы и постоянно чего-то там хотят, и к тому же, если мы говорим про рынки, то их товары — одежду, бытовые товары, различную мелочевку — надо заменить «Беллегпромом», подконтрольным, готовым кланяться и смотреть в рот, и делать, что скажут.

**— Но ведь очевидно, что раз за 20 лет «Беллегпром» не смог заменить даже секонд-хенды, то с чего бы это должно получиться сейчас? Закроют рынки — останутся секонды...**

— Потому и не смогли, что раньше был выбор: секонд-хенды, ИПшники. А когда его не будет, останется, условно говоря, только ЦУМ и больше ничего — что останется делать, пойдут все в ЦУМ.

Ведь задача — установить госмонополию на все, от информации и общественной деятельности до торговли. Потому что только госмонополия подконтрольна, и через нее можно влиять на протестные настроения.

**— Как мы помним, на ИП власти «наезжали» не раз: то им запрещали нанимать на работу больше трех человек, то вообще всех, кроме близких родственников, — а потом эти решения откатывали назад. В теперешних условиях может такое быть или задача «зачистки» первостепенна, а что там будет с рабочими местами, налогами и так далее — не столь важно?**

— Власти ведут войну, а на войне все средства хороши. Те решения, которые принимались в прошлые годы, принимались в других условиях, с точки зрения Лукашенко и его окружения. Но с августа 2020 года началась непрекращающаяся война, у них мобилизационная экономика, и можно делать все, что угодно.

В рамках этой логики им абсолютно наплевать, будет у белорусов выбор из двадцати видов джинсов или только два вида брюк от «Коминтерна» — серые и черные.

Не с голой задницей — и хорошо, не замерзли — тоже замечательно, есть возможность вырастить или купить каких-то овощей — так и вообще прекрасно, жить можно.

Зачем кого-то слушать, заботиться о чьем-то комфорте в условиях войны? Такие понятия, как «комфорт», «развитие экономики» стали второстепенными, главное — это контроль всего и вся. А значит, уничтожаем все частное и насаждаем государственное, какое есть.

К слову, Владимир Ковалкин и **сам запустил процедуру ликвидации ИП:**

— Всем ИПшникам в нынешних условиях не завидую и советую делать то же самое: пока есть возможность, выходить из бизнеса, смотреть, чем можно заняться. Если есть возможность эмигрировать — то эмигрировать. Потому что внутри страны с экономикой будет худо, скорее, будет что-то похожее на советское фарцевание 1980-х: модные джинсы-варенки в количестве пары штук купил, продал «в серую», не заплатил налоги, и с этого как-то можешь жить.

**«Филин»**
**Ирина Морозова**

МЕРКАВАННЕ

# ПОЧЕМУ УКРАИНСКИЙ ПРЕЗИДЕНТ КРУТОЙ, И КАК ЭТО ОБЪЯСНИТЬ ОТРАВЛЕННЫМ РОССИЙСКОЙ ПРОПАГАНДОЙ

**Известный продюсер Александр Роднянский — о том, почему Зеленский — крутой президент: «Все эти месяцы Зеленский вместе с украинцами — на передовой, в больницах и госпиталях. А где Путин, вы знаете».**



— Как же меня удивляет, когда россияне пишут с ненавистью о Владимире Зеленском. Удивляет потому, что более обаятельного, умного и сильного человека встретить в жизни трудно, — отмечает Александр Роднянский.

Ну а во время войны своими ежедневными обращениями к украинцам, международным правительствам, парламентам, общественным, научным, деловым и культурным сообществам, президент Украины вызвал мощнейшую волну поддержки у себя дома и беспрецедентное уважение во всем мире.

Я понимаю, что реакция многих россиян вызвана телевидением. Мне не надо объяснять, как оно работает — у меня есть ближайшие родственники, не отрывающиеся от России 24... И я знаю, как тяжело с ними говорить. Тут вам и «наркоман», и «клоун», и «пешка Запада», и «сбежал из Украины»...

Спорить с отравленными пропагандой близкими очень сложно. Даже если вы любите друг друга. Даже если вы хорошо понимаете технологии пропаганды и коротко знакомы с президентом. Близкие не слышат...

А знаком я с Владимиром Александровичем с далёкого 1998 года, когда капитаном своей команды КВН он выигрывал Украинскую лигу, выходившую в эфир на возглавляемом мною канале «1+1». Потом мы работали вместе, мне удалось помочь Зеленскому и братьям Шефирам запустить их компанию, ставшую знаменитым «Кварталом 95».

Видел я его и во время войны. В Киеве. Такого же умного, быстрого и обаятельного. Но как-то разом постаревшего, с тяжелым грузом ответственности на плечах.

Я написал эти несколько слов для того, чтобы объяснить, почему и где снята эта фотография.

Президент перед своим Офисом на улице Банковой. Рядом с ним лежит сбитый иранский дрон «Шахед 136», поставку которых в Россию категорически отрицает Иран. Именно эти дроны используют российские войска для обстрела объектов гражданской инфраструктуры. Удары по которым обрекают обычных жителей — детей, женщин и стариков — на жизнь без воды, тепла, света и канализации. Во время зимы.

Поэтому улицы Киева и всей Украины в темноте — экономия энергии и маскировка.

Поэтому президент страны рядом со сбитым дроном. Доказательством жестоких атак.

Все эти месяцы Владимир Зеленский вместе с украинцами — в столице, в других городах, на передовой, в больницах и госпиталях.

А где Путин, вы знаете.

**gazetaby.info**

ПАЗІЦЫЯ

# УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ: «Я НЕ ВЕРУ, ШТО БЕЛАРУСІ НЕ СТАНЕ»

**«Дзяды. Сёння яны для мяне не толькі народная традыцыя, дзень памяці продкаў. Яны — тое сапраўднае, што яшчэ застаецца ад Беларусі, абрысы якой, як сказаў мне днямі адзін з даўніх маіх сяброў, усё болей ілюзорныя», — піша ў Фэйсбуку Уладзімір Някляеў.**

Я не веру, што Беларусі не стане. Бо ведаю, што яна будзе. Калі нават згубіць, як ужо губляла, межы, ці страціць прыкметы дзяржаўнасці, дык будзе сама ў сабе. І зноў знойдзе свае межы, як змяя новую скуру.

Генітычна яна — вельмі моцнае ўтварэнне. Менавіта таму як яе ні знішчаюць — знішчыць не могуць.

Іншая рэч, што невыносна глядзець, як завіхаюцца, каб знішчыць. І калі б толькі чужыя. Свае, якія праз тое, што свае, чужэйшыя за чужых.

Тое, што цяпер адбываецца з намі, яшчэ нядаўна немагчыма было ўявіць. Яшчэ нядаўна, калі сыходзілі мае старэйшыя сябры, Караткевіч, Стральцоў, Быкаў, Барадулін, Бураўкін, — як мне было шкада! «Як заўчасна, — адчайна думаў я над іх магіламі, — як заўчасна!» А цяпер думаю, што ў час... І нават зайздрошчу ім, што яны не бачаць...

Бо невыносна.

Але трэба трываць. А каб трываць — помніць. Не забываць пра тое, што яны былі, аралі, сеялі, пісалі — і ты ім абавязаны. І проста мусіш рабіць тое, што ўмееш рабіць найлепей. Бо як у даўніне, гэтак і ў будучыні, толькі ў найлепшым яна невынішчальная — наша Беларусь

**Мне раптам стаў нямілы родны кут.**

*І я б забыў, што нарадзіўся тут,*
*Каб даў мне Бог забыць,*
*каб разлюбіць даў сілы*
*Пагорак той, дзе продкавы магілы,*
*Дзе хутка ўжо і мне на Божы суд.*
*Я ведаю, што я на тым судзе*
*Скажу. Што я нікому і нідзе*
*Не здрадзіў, што ў крыві*
*не вінаваты...*
*А Бог спытае: «Не прадаў ты брата?*
*Сястру сваю не кінуў ты ў бядзе?»*
*Я б адказаў, што не!..*
*Калі б Ён сілы даў*
*Змагчы той жах, што нада мной*
*паўстаў,*
*Нянавісць, што, як пыл,*
*любоў з зямлі змятае!..*
*Ён ведае, што я не прадаваў.*
*Я ведаю, чаму Ён так спытае.*

**budzma.me**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч
**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stankevich62@gmail.com тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.
**Падпісана да друку 16.11.2022 у 16.25**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.